# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 15 (894) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 15 КРАСАВІКА 1973 г. ЦАНА 60 гр.



*Сцэна з каляровага і поўнага гумару «Вяселля» ў выкананні самадзейнікаў з Меляшкоў.*

# РЭНЕСАНС ТЭАТРАЛЬНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

Закончылася чарговае культурнае мерапрыемства БГКТ — агляд самадзейных драматычных калектываў. Цэнтральны агляд адбыўся 25 сакавіка г.г. на сцэне ў памяшканні Галоўнага праўлення ў Беластоку.

Цяжка правесці ацэнку беларускага аматарскага тэатральнага руху, так як не давялося мне пабачыць прынамсі большасці калектываў, выступаючых на павятовых сцэнах. Аднак сам факт, што ў сёлетнім аглядзе прыняло ўдзел аж 15 аматарскіх калектываў, сведчыць сам за сябе. Для параўнання трэба дадаць, што ў мінулым годзе да агляду прыступіла ўсяго 7 драмгурткоў. Гаворачы аб абыякавасці павятовых аддзелаў БГКТ да справы тэатральнага руху ў мінулым годзе, Вера Леўчук пісала: «Асабліва яскрава выйшла гэта ў Гайнаўскім павеце, як вядома, багатым беларускай культурнай дзейнасцю. Або Сакольскі павет — крыніца народных талентаў і форм. Не было там увогуле павятовых элімінацый».

І хто яго ведае, ці не вострыя словы аўтара публікацыі зрабілі тое, што ў гэтым годзе Гайнаўскі павет даказаў, што ён можа. На павятовай сцэне выступіла многа і добрых драматычных калектываў. Тыя, хто быў у Гайнаўцы на аглядзе, сцвярджалі, што артыстычны ўзровень драмгурткоў быў высокі. Багатую і разнастайную дзейнасць прадставіў Беластоцкі павет, адкуль на цэнтральным аглядзе выступіла аж тры калектывы. На жаль, з Сакольскага павету ізноў не было ніводнага драмгуртка.

Сёлетні цэнтральны агляд цешыць. Цешыць не толькі тое, што выступіла аж 6 калектываў, але і тое, што паказалі яны разнастайныя формы тэатральнай дзейнасці: п'есы, інсцэнізацыю і тэатр паэзіі.

Найбольшы эмацыянальны і драматургічны эфект выклікаў тэатральны калектыў з Паўлаў, які выступіў з пастаноўкай Б. Сачанкі «Ноч няволі». Зрэшты, паўлаўскі калектыў вядомы ўжо семнаццаць год, а акцёры-аматары дасканала выконвалі свае ролі. На маю думку, вельмі добра зайграў ролю Цярэшкі Лявон Бандарук у пастаноўцы «Трыбунал» А. Макаёнка, якую паставіў драмгурток з Вілянова Сямяціцкага павету. Адважуся нават сказаць, што Бандарук месцам быў ні ў чым не горшы ад прафесіянальнага акцёра.

Гарадок на гэты год быў наватарскі, прадстаўляючы тэатр паэзіі. Гэта форма тэатральнай дзейнасці ў беларускім аматарскім руху мала знаная. «У тыя дні» П. Глебкі ў выкананні гарадоцкіх аматараў былі першым тэатрам паэзіі ў гісторыі аглядаў беларускіх аматарскіх калектываў.



*Старшыня ГП БГКТ (злева) уручае дыплом і ўзнагароду найлепшаму калектыву сёлетняга агляду з Кляшчэляў на рукі яго кіраўніка Расціслава Місеюка.*

Драмгурток з Сакоў пад кіраўніцтвам А. Лазавік выставіў «10 гектараў» Я. Блізнюка і Ул. Цілюлькі.

Аднак найвялікшай неспадзеўкай сёлетняга агляду была інсцэнізацыя вяселля. З імі выступілі Дабрывода-Кляшчэлі і Меляшкі.

Калектыў з Дабрыводы-Кляшчэль паставіў п'есу «Несцерка» В. Вольскага. Гэта праўда, што тут найлепшым быў Расціслаў Місеюк, кіраўнік драмгуртка, які спаўняў вядучую ролю. Гаворачы пра дабрыводска-кляшчэлеўскую пастаноўку, трэба адзначыць вельмі простыя, але цудоўныя, каларытныя ўборы і дэкарацыю сцэны. Было гэта відовішча, як сказала адна з членаў журы, вельмі народнае, з народным гумарам. Спадабаўся таксама сцэнарый, які адзначаўся кампактнасцю, прыгожыя калектыўныя сцэны.

Дасканалую інсцэнізацыю паказалі жанчыны з Меляшкоў. Зіна Літвін, кіраўнік калектыву паставіла на сцэне звычайнае вясковае вяселле. Тут сцэнарый і змест былі абсалютна ўласнай работы — жывы фальклор. Гледзячы на меляшкоўскае вяселле, насоўваецца думка, што такія рэчы трэба запісваць і захоўваць. Гэта ж не толькі справа вяселля як такога, але справа абрадаў, песень, зразумела, багатага караваю. Як у кожным вяселлі, вядучы, староста ці маршалак, гэта гумарыст, а народны гумар і багаты зместам, і смешны.

Сёлетні агляд насоўвае прапанову, каб чарговы агляд драматычных калектываў зрабіць пад лозунгам народнасці. На нашых вёсках былі цікавыя і прыгожыя святочныя абрады, масляніца, кудзельніцы і т.п. Гэта трэба знайсці сярод старэйшых кабет, запісаць і паказаць сучаснаму пакаленню.

Як і ў аглядзе песень на сцэне выступала шмат старэйшых аматараў. Асабліва гэта было відавочна ў вясельнай інсцэнізацыі з Кляшчэляў-Дабрыводы. і Меляшкоў. Гэта дадавала пастаноўкам сімпатычнай натуральнасці.

Журы пад кіраўніцтвам Ізабэлы Пултарак з Ваяводскага дома культуры першае месца прызнала тэатральнаму калектыву з Кляшчэляў-Дабрыводы за пастаноўку В. Вольскага «Несцерка». Другую ўзнагароду атрымалі Паўлы за «Ноч няволі» Б. Сачанкі. Трэцяга месца журы не прызнала нікому, а чацвёртае драмгуртку з Вілянова за пастаноўку А. Макаёнка «Трыбунал». Калек-

(Працяг на стар. 5)



*Зала не змясціла ўсіх ахвотных паглядзець выступленні тэатральных калектываў. На першым плане журы агляду.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

Таленты з Арэшкава ● Сям'я Абрамовічаў ● Конкурс на найактыўнейшую вёску па карэспандэнцыі для «Нівы» ● Аб кніжцы пра Грамаду ● Фотарэпартаж з адкрыцця Ізбы народнай памяці ў бельскім ліцэі ● Беларускія тканіны ● Весткі з Боцькаў, Сакоў, Нетупы, Валілаў, Дубяжына, Бабікаў, Тафілаўцаў і Трасцянкі ● Вінныя прымаўкі.

# II ПЛЕНУМ ГП БГКТ

Другое пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ (1.IV.) прысвечана было працы праўленняў аддзелаў БГКТ з актывам. З дакладам прэзідыума выступіў старшыня ГП Мікалай Самоцік.

«БГКТ як масавая грамадская арганізацыя, — падкрэсліў дакладчык, — рэалізуючы ўказанні ПАРП, выконвае важную ролю ў актывізацыі рэгіёна ў галіне развіцця культуры і грамадска-гаспадарчага жыцця. Аб'ёмам сваёй дзейнасці таварыства ахоплівае тысячы грамадзян. Працу вядзе яно ў 190 гуртках, агулам сярод 5987 членаў.

Гурткі БГКТ з'яўляюцца апекунамі і ініцыятарамі культурнай працы ў 27 гмінных святліцах, 22 святліцах ОСП (пажарных каманд), у 62 клубах «Рух», у 32 клубах селяніна, 43 школьных цэнтрах культурнага жыцця. Гэта значыць, што нашы гурткі могуць паспяхова развіваць культурна-асветную дзейнасць у 185 святліцах і клубах, фінансуючыхся рознымі ўстановамі. Ёсць таксама магчымасці, каб карыстацца з кіназалаў, канферэнцыйных залаў ва ўстановах і з святліц, кіраваных іншымі арганізацыямі.»

Даныя гэтыя сведчаць аб тым, што ёсць дзе працаваць. І многія гурткі, як, напрыклад, гурток у Плёсках на Бельшчыне, прыкладна выкарыстоўвае мясцовы клуб і ўмела вядзе культурна-асветную працу ў сваім асяроддзі.

Дзякуючы добрай працы многіх гурткоў і актывістаў добра ўжо вырашаюцца даволі цяжкія заданні, як арганізаванне фэстынаў, аглядаў беларускай песні і драматычных гурткоў. Прыкладам гэтаму могуць паслужыць аддзелы ў Гайнаўцы, Бельску, Беластоцкім, Сямяціцкім паветах.

«Ёсць у нас адданы актыў, — сцвердзіў старшыня ГП. — Да перадавога актыву трэба залічыць членаў Галоўнага праўлення і членаў праўленняў аддзелаў з рэвізійнымі камісіямі. Сярод 205 членаў праўленняў аддзелаў 133 з'яўляюцца членамі ПАРП, 28 членам даверany функцыі радных, а 66 знахо-

Працяг на стар. 4

У ЛАБАРАТОРЫЯХ ВУЧОНЫХ




Паверхня вялікай контурнай карты Еўропы ўсеяна дробненькімі рознакаляровымі лічбамі і нейкімі незвычайнымі таямнічымі значкамі.

— Можа вы хацелі б ведаць, якое сёння надвор'е ў Мінску, Маскве, Парыжы ці на далёкім Шпіцбергене? — звяртаецца да мяне мгр інж. Юзэф Івінскі — кіраўнік беластоцкага аддзела Інстытута метэаралогіі і воднай гаспадаркі. — Калі ласка, сёння мінчанкі мусілі апрануць цёплае паліто і ўзяць з сабой парасоны, бо раніца была халодная — — дзьмуў паўночна-заходні вецер, перападаў дождж са снегам. А ў Парыжы ранак быў даволі прыгожы: шэсць градусаў цяпла, ціха, свяціла сонца. Затое на Шпіцбергене бушавала снегавая навальніца...

Пад спрактыкаваным вокам Ю. Івінскага рознакаляровыя лічбы і значкі, што на карце, адкрываюць свае таямніцы. З іх ён чытае сілу і напрамак ветру, вышыню і тоўшчу хмараў, ападкі, тэмпературу і іншыя дадзеныя аб стане надвор'я ва ўсёй Еўропе. Праз цэлыя суткі, днём і ноччу, круглы год, кожную гадзіну паяўляецца новая карта з новымі значкамі. У той жа час беластоцкі аддзел інстытута перадае ў цэнтр, і адтуль ідуць на ўсю Еўропу дадзеныя аб надвор'і, якое пануе на Беласточчыне. Стракацяць тэлетайпы, гудзяць сінаптографы, адзываюцца пазыўныя радыёстанцый, няспынна працуюць дзесяткі людзей.

— Але нашая праца не абмяжоўваецца толькі да спраў надвор'я. Сабраць дадзеныя з шасці метэастанцый, падлеглых нашаму аддзелу, апрацаваць іх, перадаць у цэнтр, вызначыць надвор'е для нашага рэгіёну на бліжэйшыя суткі (прагнозы на даўжэйшыя тэрміны акрэсліваюць сіноптыкі ў Варшаве) — гэта ўсё ж невялікі адрэзак нашай дзейнасці, — заўважае Ю. Івінскі. — Нядаўна наступіла аб'яднанне ранейшага Дзяржаўнага гідралагічна - метэаралагічнага інстытута з Інстытутам воднай гаспадаркі. У выніку паўстаў Інстытут метэаралогіі і воднай гаспадаркі, падпарадкаваны Міністэрству сельскай гаспадаркі. Рашэнне правільнае. Як вядома, справа інтэнсіфікацыі сельскагаспадарчай прадукцыі мае ў нашай краіне цэнтральнае значэнне. А высокія ўраджаі і добрая гадоўля дабытку залежыць ад умення гаспадарыць, а таксама ад колькасці вады і надвор'я.

Таму наш аддзел інстытута займаецца збіраннем з паўночна-ўсходніх абшараў Польшчы (з басейну ракі Нарвы — ваяводства Беластоцкае і частка Ольштынскага і Варшаўскага) дадзеных аб стане вод у рэках, рэчках і азёрах, узроўні грунтовых водаў, рознага роду кліматычных дадзеных — тэмпература паветра, ціск, вільготнасць, напрамкі і сіла ветру, воблачнасць, глыбіня замярзання грунту і іншыя фактары — вельмі важных для ўсёй народнай гаспадаркі. Збіраем мы ўсё гэта скрупулёзна і сістэматычна, апрацоўваем, накапляем і прадстаўляем да карыстання навуковым установам і праектным бюро, словам, усім, каму гэтыя дадзеныя неабходны. Гэта вельмі каштоўны матэрыял, ад правільнага выкарыстання якога залежыць, ці новы завод будзе ўданай інвестыцыяй і ці новы сорт жыта дасць добры ўраджай, ці новы дом будзе трывалы ды цёплы і ці новая парода быдла дасць больш малака і прыросту мяса. Гэта толькі для прыкладу, наколькі важныя дадзеныя, якія мы маем у нашым «банку інфармацыі».

— Ці праводзіце і навуковыя доследы?

— Так, і нават даволі шырокія. Перш за ўсё праводзім аграметэаралагічныя доследы над уплывам клімату на розныя сарты збожжа, над прымяненнем розных форм і колькасцей угнаення (для гэтага маем спецыяльныя доследныя палеткі). Вывучаем водныя рэсурсы меліяраваных абшараў і тых, якія будуць меліяраваны. Даследуем водныя багацці грунту, рэк і азёраў. На аснове сабранага матэрыялу апрацоўваем указанні для прамысловых і сельскагаспадарчых інвестыцый, дбаючы пра тое, каб яны не парушылі законаў пануючай у прыродзе раўнавагі. Значыць: каб чалавек не шкодзіў сам сабе.

— Што новага ў польскай метэаралогіі і воднай гаспадарцы?

— Перш за ўсё паўстае Нацыянальны метэаралагічны цэнтр. Гэта будзе ўстанова, абсталяваная па апошняму слову сучаснай тэхнікі, з электроннымі вылічальнымі машынамі, сістэмай каблевай сувязі ўсіх метэастанцый краіны з цэнтрам і шэрагам іншых самых новых тэхнічных прыладаў. Цяпер мы праводзім інтэнсіўную падрыхтоўку кадраў да працы з новай апаратурай і паводле самых сучасных вымаганняў, бо ад 1975 года Нацыянальны метэаралагічны цэнтр будзе ўжо дзейнічаць.

Калі я развітваўся з мгр інж. Ю. Івінскім, двое працаўнікоў прымалі з сінаптографа актуальную карту пагоды з раёну Штакгольма. Ізабары і ізатэрмы на толькі што прынятай карце надвор'я на Шпіцбергене гаварылі, што снежны буран там крыху суцішыўся. Лётчык санітарнага самалёта пытаўся па тэлефону пра пагоду ў Варшаве — меў ляцець з цяжка хворым чалавекам з Бельска ў Варшаву. У Беластоку ж панавала прыгожае сонечнае прадвесне.

*Мікалай Гайдук*
*Фота аўтара*



*Мгр інж. Ю. Івінскі правярае працу адной з установак метэаралагічнай станцыі ў Беластоку.*

*Агульны выгляд будынка беластоцкага аддзела Інстытута метэаралогіі і воднай гаспадаркі.*




## АБ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ — У ЧЭХАСЛАВАКІІ

У сувязі з 50-годдзем Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, у Празе надрукавана праца «Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры». Напісаў яе вядомы вучоны і папулярызатар беларускай літаратуры ў Чэхаславакіі др Вацлаў Жыдліцкі, прафесар Карлавага універсітэта.

Характарызуючы ўмовы, у якіх адрадзілася беларускае пісьменніцтва ў XIX стагоддзі — др Жыдліцкі піша:

(...) Мартыралогія беларускай літаратуры сваімі размерамі перавысіла ўсе цяжкія выпрабаванні славянскіх літаратур. У тыя часы не было такога аўтара, які б не прайшоў праз турму, выгнанне або паліцэйскія праследаванні. Многія заўчасна паміралі, не ўбачыўшы сваіх твораў у друку, а яшчэ часцей пакідалі па сабе толькі зачаткі».

Аўтар нарыса, упамінаючы пра ўсіх беларускіх пісьменнікаў, спыняецца даўжэй на творчасці Дуніна-Марцінкевіча, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Янкі Лучыны.

Асобным раздзелам працы з'яўляецца «Нашаніўская» пара (1905-1919 гады).

«Карацей кажучы, — піша аб гэтым перыядзе Жыдліцкі, — узнік патрэбны творчы настрой, плённае літаратурнае жыццё. Тады пісьменства беларусаў прыцягнула ўвагу заграніцы, асабліва ў славянскім свеце, а перш за ўсё ў нас, дзе асабліва сардэчна цікавіўся ім Адальф Чэрны ў сваім «Слёванскім пжэгледзе».

Жыдліцкі падрабязней ахарактарызоўвае творчасць Янкі Купалы, Максіма Багдановіча (...«які ўзброены дакладным веданнем еўрапейскай паэзіі памастацку «ўклаў» беларускае слова ў класічныя і новыя формы»...), Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага.

Пішучы пра савецкі перыяд, Жыдліцкі не абмінуў ніводнага, вартага ўвагі прозвішча. Гэты раздзел яго працы найбольш багаты. У заканчэнні аўтар выказвае сваё агульнае адчуванне творчасці таго пакалення, якое прыйшло ў літаратуру пасля XX з'езду КПСС.

«Маладыя аўтары не ўтвараюць ніякай уласнай школы, не аб'яднаны яны стылем ці нейкай тэмай; пераважае ў іх натуральная арыентацыя на сучаснасць з пэўнай схільнасцю да вяртанняў у ваеннае дзяцінства ды маладосць. Аднак, праграмна агульнае ім пярэчанне якому-кольвек дагматызму і засяроджанне на галоўным аб'екце мастацтва — чалавеку. Прытым, цікавіць іх у чалавеку перш за ўсё яго нутро, яго этычная постаць. Разам з тым удзяляюць больш увагі працэсам, чымсьці вынікам. У першую чаргу, працэсам станаўлення характару.

І яшчэ адно трэба сказаць аб маладым пакаленні: што сваім падыходам унесла ў беларускі літаратурны працэс нечуваную дынаміку, а сваімі поглядамі захапіла і многіх старэйшых пісьменнікаў.

Дзякуючы такому ажыўленню, у канчатковым выніку замацавалася аб'яднанне з агульнаеўрапейскім літаратурным кантэкстам. Сучасная беларуская літаратура дасягнула ўзроўню, аб якім некалі сніў М. Багдановіч, калі казаў, што «нясе свой дар усёй людскасці».

Жыдліцкі склаў спісак кніжак беларускіх пісьменнікаў, якія выйшлі ў перакладзе на чэшскую або славацкую мовы. Усіх — семнаццаць. Няшмат. Найбольш — Быкава, Мележа і Коласа. У «Слоўніку пісьменнікаў народаў СССР», які выйшаў на чэшскай мове ў 1966 годзе, надрукаваны 143 артыкулы пра беларускіх аўтараў.

У чацвёртым нумары часопіса «Ruský jazyk» ад 1972 г. др Вацлаў Жыдліцкі змясціў артыкул «Юбілейны год беларускай літаратуры», прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Часопіс гэты прызначаны для настаўнікаў рускай мовы ў школах Чэхаславакіі.

*Сакрат Яновіч*

Dr Václav Židlický. Stručný nástin dějin běloruské literatury. Praha 1973.







Вёска Ячна Дуброўскага павету. Фота Я. Цялушэцкага



# Магіла ў Лядскай пушчы

Адгрымеў фронт. Пад Гайнаўкай засталося асабліва многа развалін і папялішчаў, бо савецкія войскі заўзята там абараняліся, а гітлераўцы за гэта мсціліся на мясцовым насельніцтве. Такім чынам пайшлі з дымам Старое Беразова, Дубічы і іншыя вёскі. Адначасова ў гэтых вёсках палі першыя ахвяры гітлераўскага злачынства.



*Пётр Кур'яновіч з Нарвы.*



*Цімафей Садоўскі з вёскі Тыневічы Вялікія.*

Людзі аднак яшчэ добра не пазналі варварскага аблічча гітлераўскага фашызму. Гаварылі: што ж, фронт, а ў час бою рознае здараецца...

Першыя тыдні акупацыі прайшлі тады ў атмасферы напружанага чакання: што будзе далей? Немцы ўстанавілі солтысаў у вёсках і амсткамісараў у гмінах, а ў Белавежы абсталяваўся паліцэйскі батальён 322. І тады пачалося...

Аб злачынствах гэтага батальёна расказвалі мы чытачам на старонках «Нівы» летам 1971 года. Акруговая камісія па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў таксама занялася «справай шуцпаліцэйскага батальёна 322». У выніку шматгадовага ды падрабязнага даследавання «справы» суддзя, магістр Галіна Дамашэвіч 1 снежня 1972 года склала наступны акт абвінавачання:

«Прапаную паставіць перад судом:

1) Групенфюрэра СС Фон дэм Баха Залеўскага — вышэйшага камандзіра СС і паліцыі «Расія-Міттэ», якому ад 24 ліпеня 1941 года да 6 верасня 1941 года непасрэдна быў падпарадкаваны батальён 322.

2) Надэля — маёра шуцпаліцай, які камандаваў батальёнам 322.

3) Бінца — капітана шуцпаліцай.

4) Ёрке — капітана шуцпаліцай.

5) Ліпмана — капітана шуцпаліцай.

6) Фромбсдорфа — старшага лейтэнанта шуцпаліцай (...)»

...і так чаргуюцца прозвішчы гэтых злачынцаў — ад афіцэраў аж да радавых. Усіх разам 83. Зразумела, у саставе батальёна 322 было іх многа больш. Не ўсіх пакуль што ўдалося ўстанавіць. Аднак цэлы свет хай ведае хаця б і пра гэтых, хай людзі ведаюць, што яны:

«(...) I. ад 23 да 31 ліпеня 1941 года, служачы ў батальёне 322, кіруючыся нацыянальнай нянавісцю і нікчэмнымі матывамі, расстралялі каля касцёла ў Нарве Якуба Смактуновіча і Рыгора Вайкоўскага.

II. 31 ліпеня 1941 г., служачы ў батальёне 322, кіруючыся нацыянальнай нянавісцю і нікчэмнымі матывамі, загадалі з'явіцца ў Нарву Гайнаўскага павету:

Уладзіміру Петручуку,
Міхаілу Гаўрылюку,
Піліпу Асташэўскаму,
Якубу Галёнку, (...)
(і 39 іншым грамадзянам),

цы пасля вывезлі ўсіх разам на аўтамабілі ў 19-ы квартал Лядскай пушчы і там усіх расстралялі...»

Гэта ў лесе непадалёк за вёскай Ваські. Цяпер там стаіць скромны помнік, але тады гітлераўскія каты ўсё рабілі, каб і следу не засталося пасля свайго злачынства.

Дзімітр Снарскі расказвае:

— Жыў я ў Нарве. 30 ліпеня пасланец прынёс мне павестку, каб на другі дзень з'явіцца ў гміну для праверкі дакументаў. Гэтага паведамлення я аднак не прыняў і сам схаваўся ў лесе. Цяпер ведаю, што такім чынам выратаваўся ад смерці. Бо тых, хто прыйшоў у Нарву, нібы для праверкі дакументаў, расстралялі ўсіх да аднаго. Бачыў я, як везлі іх на аўтамабілі, а пасля чуў кулямётную стральбу. Вечарам пайшоў на гэтае месца. Гітлераўцы ўсё тут старанна замаскавалі. На свежую магілу нанасілі моху і галля, а нават пасадзілі маладую елку... Расстраляныя людзі выводзіліся з Нарвы, Паўлаў, Сацоў, Трасцянкі, Тыневіч, Крыўца, Ласінкі, Клейнік і іншых навакольных вёсак. Усе яны пры савецкай уладзе былі актывістамі.



*Сцяпан Кірылюк з вёскі Сацы.*



*Сцяпан Байтручук з вёскі Клейнікі.*



*Уладзімір Крэнтоўскі з вёскі Ваські.*



*Ананій Гаўрылюк з вёскі Клейнікі.*

У супольнай магіле знайшлася адна жанчына — Вольга Семянюк, якая «пры Саветах», як кажуць у нас людзі, была старшынёю сельсавета ў Агароднічках. Пра яе расказвае дачка Анна, якая па мужу называецца Ясюк і жыве ў Трасцянцы:

— Калі прыйшлі немцы, дык праз некалькі тыдняў загадалі маме з'явіцца ў Нарву, у гміну. Мама туды пайшла і ўжо не вярнулася. Яе расстралялі на ўскраіне Лядскай пушчы, дзе цяпер знаходзіцца помнік. Яе цела мы адкапалі на другі дзень пасля расстрэлу і перавезлі на могільнік у Трасцянцы. Куля трапіла маме ў галаву, каля правага вока.

Падобных выказванняў па справе батальёна 322 ёсць многа. Суддзя, магістр Галіна Дамашэвіч разам з пракурорам Манкевічам сабралі багаты матэрыял, які без ніякіх сумненняў характарызуе разбойніцкую дзейнасць «рыцараў новага парадку». Ніякі суд на свеце не можа апраўдаць гэтых злачынцаў. На жаль, знаходзяцца яны там, куды рука нашага правасуддзя ўжо не дасягае. Дык Акруговая камісія па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў зрабіла, што толькі магла. Яна перадала справу судовым органам ФРГ. Ці яны скарыстаюць з гэтых доказаў — гэта ўжо іх справа. Мы можам толькі аб'явіць свету, што аб ахвярах гітлераўскага тэрору ніколі не забудзем.

На здымках мы бачым некаторых ахвяр гітлераўскага злачынства. Гэта людзі, якія былі расстраляны 31 ліпеня 1941 года.



*Мікалай Раманюк з вёскі Крывец.*



*Серафім Яканюк з вёскі Канюкі.*

*Віктар Рудчык*
*Фота архіў АКДГЗ у Беластоку*

Працяг са стар. 1)

# II пленум ГПБГКТ

дзіцца на кіруючых пасадах у розных установах, прадпрыемствах і арганізацыях. Сярод іх 103 асобы маюць сярэднюю адукацыю, а 53 — вышэйшую.

На высокім агульным і прафесіянальным узроўні знаходзіцца наш актыў у літаратурным аб'яднанні «Белавежа» і рэдакцыя «Ніва». Гэты актыў уносіць найбольш ведаў непасрэдна ў гурткі з галіны беларускай культуры і літаратуры. Аўтарскія сустрэчы літаратараў і журналістаў заўсёды карыстаюцца зацікаўленнем у грамадстве і адбываюцца пры запоўненых залах.

БГКТ мае шмат дасягненняў, мае многа добрых прыкладаў працы актыву, гурткоў і аддзелаў. Адначасова ёсць таксама нямала недахопаў, да якіх перш за ўсё трэба залічыць недастатковую дзейнасць сакольскага і дуброўскага аддзелаў і недастатковую абслугу гурткоў БГКТ актывістамі».

У дакладзе шмат увагі прысвечана набліжаючымся ў Беластоку Цэнтральным дажынкам, а таксама святкаванню 30-ай гадавіны Народнай Польшчы.

У канцовай частцы даклада былі прадстаўлены заданні для Прэзідыума ГП, членаў ГП, аддзелаў, гурткоў, актывістаў, рэдакцыі «Ніва». А вось некалькі з іх: а) Галоўнае праўленне БГКТ шырэй узніме тэму культуры вёскі і горада, іх парадку і эстэтыкі. б) Прэзідыум ГП БГКТ абавязаны арганізаваць часцей сустрэчы актывістаў ГП з актывістамі праўленняў аддзелаў непасрэдна ў гуртках, дыскутуючы на найбольш актуальныя тэмы таварыства і грамадска-гаспадарчыя тэмы. в) Праўленні аддзелаў павінны ўзнімаць шляхам конкурсаў беларускі фальклор у розных формах, павінны шырэй папулярызаваць фэстыны як свецкія мерапрыемствы, павінны мабілізаваць вёскі да арганізавання зялёных нядзеляў — высаджвання вёскі і дарог дрэвамі, а няўжыткаў — лесам, г) Рэдакцыя «Нівы» ўзмоцніць дзейнасць у галіне папулярызацыі людзей добрай работы на карысць асяроддзя.

Пасля даклада распачалася плённая дыскусія.

Старшыня гайнаўскага аддзела Аляксандр Іванюк гаварыў аб карысным супрацоўніцтве праўлення з аддзелам культуры Прэзідыума ПРН і аб неабходных нарадах старшынь гурткоў і актыву, у тым ліку і гміннага актыву БГКТ.

Янка Цялушэцкі — старшыня павятовага беластоцкага аддзела БГКТ расказаў, як іх аддзел разгарнуў шырокую дзейнасць на вёсках і дзякуючы гэтай дзейнасці здабыў шмат актыву.

Намеснік старшыні гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку Уладзімір Паўлоўскі і сакратар варшаўскага аддзела Віктар Швед паінфармавалі аб формах працы сваіх аддзелаў, у якіх асноўным актывам з'яўляецца моладзь. Аб пашане да актыву, аб заахвочванні яго да працы і аб магчымасцях стварэння гмінных праўленняў БГКТ гаварыў сакратар ГП Янка Зенюк.

Валя Філіпюк, кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП прысвяціла сваё выступленне павышэнню якасці конкурсаў на беларускую песню і на беларускае сцэнічнае слова і павелічэнню ліку яго ўдзельнікаў.

Важнай галіной працы БГКТ з'яўляецца збіранне і публікаванне беларускага фальклору Беласточчыны. Гэтыя справы акцэнтаваў Мікалай Гайдук — старшыня гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Член Галоўнай рэвізійнай камісіі ГП Уладзімір Навіцкі выступіў з прапановай выдання брашуры аб працы БГКТ у сувязі з набліжаючымся 20-годдзем існавання БГКТ.

Старшыня бельскага аддзела Аляксей Карпюк падкрэсліў ролю беларускага ліцэя і яго значэнне ў працы БГКТ. Звярнуў ён таксама ўвагу на супрацоўніцтва аддзела з дырэктарамі і настаўнікамі пачатковых школ.

Член прэзідыума ГП Аляксандр Баршчэўскі выказаў думку адносна ўтварэння вялікай лектарскай групы, члены якой маглі б выступаць з дакладамі на такія тэмы, на якія ёсць запатрабаванне ў даным гуртку БГКТ.

# ДЛЯ ПАЧАТКУ — НІЧОГА

Дзень схіляўся да вечара. Пані Шаматкова мыла посуд. Дачка яе Олінка перагортвала ілюстраваны журнал. Потым яна ціха сказала:

— Мама!

— Што, дачушка?

— Хочаш, памагу талеркі выціраць?

— А потым папросіш грошай на новы світэр? — засмяялася маці.

— Не, мамачка, але... Я хачу табе сказаць сёе-тое па сакрэту...

Олінка пачырванела і апусціла вочы.

— Гавары смялей! Бацька спіць пасля абеду, не чуе! — падбадзёрыла пані Шаматкова.

— Мам, мне ўжо васемнаццаць...

— Ведаю, ну і што?

— Мам, у мяне хлопец ёсць... Хоча замуж узяць. Хутка Вялікдзень, гаворыць, тады і вяселле за адным захадам згуляем.

— Працуе?

— Працуе... Электраманцёрам...

— Без дыплома, значыць?

— Без дыплома, мамачка... Але ён вельмі добры.

— Што ж, Олінка, для пачатку нічога. Першы муж можа быць і без дыплома. Мой першы таксама не быў інжынерам. А ўжо потым я за твайго бацьку выйшла...

*Мілан Кукучка*
*(Чэхаславакія)*

— *Ты ўпэўнены, што на такіх нагах мы дойдзем да сацыялізму?*

### НА ТВАІМ МЕСЦЫ

— У мяне страшэнна баліць зуб.

— Дружа! Калі б я быў на тваім месцы, дык пайшоў бы да дантыста і вырваў бы той зуб...

— Я таксама зрабіў бы, калі б быў на тваім месцы.

### З ІМПАРТУ

Дырэктар фірмы выклікаў галоўнага бухгалтара і сказаў:

— У сувязі з рэарганізацыяй, праведзенай у нашай фірме, я запрасіў вас, дарагі містэр Джэксан, каб падзякаваць і сказаць «да пабачэння».

— Шкада! І калі ж вы нас пакідаеце?

## ГУМАР З

## ЛІСА І ЦЕЦЯРУК

Сядзеў цецярук на бярозе і спяваў **свае песні. Пачула** ліса і захацелася ёй цецеруком падсілкавацца. Падышла яна да дрэва і кажа:

— Слухай, цецярук, ці не чуў ты, што цяпер пайшлі новыя законы: каб усе звяры мірна жылі, адзін аднаго не чапалі. Нават загад ёсць, я яго сама чытала.

А цецярук ёй гаворыць:

— Добрыя законы, але, чую, недалёка сабакі брэшуць, вось-вось сюды прыбятуць.

Збіраецца ліса ўцякаць, а цецярук:

— Дык пачакай, можа яшчэ які закон прынясуць. Калі ж ёсць такі закон, каб адзін аднаго не чапаць, дык няма чаго баяцца.

Ліса гаворыць:

— А можа яны яшчэ загады тыя не чыталі. Трэба ўцякаць.

Так і не ўдалося ёй перахітрыць цецерука.

— *Вы сапраўды ўпэўнены, што прыйшла вясна?*

# НІЧКА

## МІНІВЕРШЫ

### ТАКОЙ БЯДЫ

Як разлюбіш ты, нарэшце,
Буду вельмі бедаваць:
Уначы не буду есці
І ўвесь дзень не буду спаць.

*Мікола Вяршынін.*

### КЛОПАТ ГУЛЬТАЯ

Клопат гультая такі:
— Не намуляць бы бакі...

*Алесь Махнач.*

*...Сумленне яму сёе-тое падказвала. Ды падказкамі ён не карыстаўся прынцыпова.*

*...Палез за словам у кішэню і дастаў кастэт.*

## Галаваломка

Фігура злева складаецца з сямі элементаў, якія можна поўнасцю ўкласці **на фігуру**, змешчаную побач. Як гэта зрабіць?

### НАХАБНІКІ

Зайшоў у аўтобус стары дзядуля. Сагнуўся ды і стаіць, бо месцы ўсе заняты. А адзін маладзік кажа другому:

— Ну і нахабнымі сталі гэтыя старыя!.. Так і тырчаць перад носам, каб хто ім месца ўступіў...

### ПАСЛЯ ЗАРПЛАТЫ

Прыйшоў муж дамоў п'яненькі, а жонка і пытае:

— Ты атрымаў зарплату?

— Атрымаў.

— А дзе ж яна?

— Ды на ашчаднай кніжцы.

— А дзе ж твая кніжка?

— Ды яшчэ друкуецца...

### ДЫХАЦЬ НЕ ХОЧАЦЦА!

— Пане старшыня, я магазін вартаваць больш не пайду! — заявіў у канторы дзед Гнат.

— А то чаму? — спытаў старшыня.

— Вы казалі, што работа лёгкая, а яно ж не... Так наробішся за ноч, што і дыхаць не хочацца. Толькі чуеш: «Гнацiку, ану пададай!»

— А каму ж гэта вы падаеце?

— А хіба я ведаю. **Яно ж паночы, ды і падыходзіў я ззаду.**

*Чаго ў спорце не бывае!*

### ПРАДБАЧЛІВАСЦЬ

Купіў Мікола ў горадзе таз. Прабіў у ім дзірку і панёс да майстра ладзіць.

— Навошта ж ты купіў таз з дзіркаю? — здзівіўся майстар.

— Ды не, я купіў цэлы, — адказаў Мікола, — але ж усё роўна ён калісь прадзіравіцца, а ў вёсцы ў нас майстра няма. Лепш я заадно ўжо і паладжу, пакуль у горадзе...

### І ТО ДОБРА

У дзяўчыны запыталіся:

— Што ты добрае зрабіла для сваёй вёскі?

— **Выйшла замуж за агранома.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ніны Самосюк і Галіны Анціпюк з Міхалова, Тамары Дарашкевіч з Меляшкоў Беластоцкага павету, Марыі Нічыпарук, Марысі Сэвесюк, Ольгі Ручай, Ніны Баравік і Марысі Лаеўскай з Мора, Аліка Янушкевіча з Рыбакоў і Янкі Пякарскага са Старога Ляўкова Гайнаўскага павету, а таксама Мікалая Гадзіны з Райска Бельскага павету змяшчаем папулярную сучасную ўкраінскую песню

## CZERWONA RUTA

**Muzyka i słowa ukraińskie: W. Iwasiuk**
**Słowa polskie: Janusz Laskowski**

Wyznaj, wyznaj dziś mi
jakie czary rzuciłaś,
czemu smutne me dni,
czemu smutna ta miłość?
Ruty w lesie rósł kwiat,
wietrzyk szepnął ci: zerwij!
Ruty na mnie czar padł,
ruty zapach i czerwień.

Jak górski strumień,
pięknо nieść, kochać umiesz,
jesteś jak leśna ruta,
ruty czerwień, czar.

**Nie szukaj, miła,**
skarbów tych, któreś śniła,
**urok twój — kolor ruty,**
ruty czar.

Ciebie przyniósł mi sen,
przyniósł lasem zielonym.
**Zwiewna, lekka jak cień,**
idziesz ścieżką mych wspomnień.
Miłość w sercu na dnie
kryje słowa łaskawsze.
Widzę ciebie we śnie,
będziesz ze mną już zawsze.

*

Ти признайся мені,
Звідки в тебе ті чари.
Я без тебе всі дні
У полоні печалі.
Може, десь у лісах
Ти чар-зілля шукала,
Сонце-руту знайшла,
І мене зчарувала.

Червону руту
Не шукай вечорами.
Ти у мене едина,
Тільки ти, повір.
Бо твоя врода —
То е чистая вода,
То бистрая вода,
Синіх гір.

Бачу я тебе в снах
У дібровах зелених.
По забутих стежках
Ти приходиш до мене.
І не треба нести
Мені квітку надії,
Бо давно уже ти
Увійшла в мої мрії.

— *Спачатку штраф, а потым ужо балбатня аб міжпланетных кантактах...*

# Курёзы

### НА ЖЫЎЦА...

Для барацьбы са злачыннасцю і насіллем у Лос Анджэлесе (ЗША) гарадскія ўлады распрацавалі праект пад назвай «Вулічная вахта». Згодна з гэтым праектам, мяркуецца шырока выкарыстоўваць мужчын-паліцэйскіх, пераапранутых у жаночае адзенне, у якасці «прынады» для рабаўнікоў і насільнікаў. Аб гэтым паведаміла нядаўна амерыканская газета «Інтэрнэшнл гаральд трыбюн».

### № 13 ПРЫНОСІЦЬ ШЧАСЦЕ

У саставе многіх хакейных каманд, што прыехалі ў Корціна д'Ампеца, не было спартсменаў, якія гулялі пад нумарам 13 — ні ў камандах Канады, ні ЗША. І спартсмены і кіраўнікі лічылі, што трынаццаты нумар нічога добрага не прынясе.

Якое ж было здзіўленне канадцаў і амерыканцаў, калі яны ўбачылі, што ў савецкай камандзе пагарджаюць «дакладнейшымі» прыкметамі: Юрый Панцюхоў іграе пад трынаццатым нумарам. А затым яны атрымалі магчымасць пераканацца ў тым, што і «дакладнейшыя» прыкметы падводзяць. Маючы ў сваім саставе іграка з нумарам 13, савецкая каманда абыграла ўсіх сапернікаў і стала алімпійскім чэмпіёнам. Шмат шайб у вароты сапернікаў закінуў Панцюхоў.

### ВІСКІ З АРКТЫЧНЫМ ЛЁДАМ

У адным з японскіх універмагаў у другой палове снежня з'явіўся ў продажы незвычайны тавар: дзвюхтысячагадовай даўнасці арктычны лёд з Грэнландыі. Камерсанты рэкамендуюць гэту старажытнасць не ў якасці музейнага экспаната і не для вывучэння ў лабараторыях, а для прыгатавання віскі з лёдам. За кілаграм такога лёду трэба заплаціць 600 іен.

## Міжнамі

*Працуе машына, якая замяняе працу ста чалавек, а навокал стаяць сто чалавек і глядзяць, як яна працуе.*

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020